Два дні таму бобрык Плясік пакінуў бацькоўскую хатку на згібе ракі і паплыў уздоўж берага ў пошуку прыстанку для самастойнага, асобна ад сям'і, жыцця. Натрапіў на прыгожую мясціну ля маляўнічага вірка за вярсту ад роднага котлішча* ды і вырашыў пры ёй пасяліцца.

Вядома, жыць аднаму, у самоце, што птушцы, што чалавеку, што жывёле, — не вялікая радасць. Ні табе паразмаўляць з кім, ні падурэць, ні параіцца ў хвіліну няпэўнасці.

І з харчам, вядома, аднаму цяжэй, як у талацэ**. Асабліва, калі захварэеш. Вось надумаешся ты, да прыкладу, бабёр, асініну падгрызці ды паваліць, каб маладзейшаю верхняю карой яе паласавацца, а не зможаш. Бо сіл жа ў хворага вобмаль***, а памагчы няма каму.

Хоць кладзіся тады і з голаду памірай. Добра, як на зарасніку вадзяных лілеяў ці на купкі трыснягу натрапіш, то пад'ясі. А як не?

І ўначы, як раптам захаладае, няма да чыйго цёплага пляча адзінотніку дзеля сугрэву прыхінуцца.

А галоўнае — як ад заклятых ворагаў, ад лісіц ды ваўкоў, што па беразе ў пошуку лёгкае спажывы гойсаюць, ратавацца? У грамадзе варта аднаму бабру пляснуць хвастом па вадзе ў выпадку

---

* Родны дом, сяліба, месца жыхарства.

** Супольна, разам.

*** Мала.

небяспекі — і вось ужо кожны пра яе ведае. У адзіноце ж — зусім іначай усё. Падпільнуе драпежнік непрыкметна, і думай тады, як ягоных бязжаласных вострых зубоў унікнуць.

Адным словам — кепска аднаму.

Вядома, калісьці адысці ад бацькоў дзеля стварэння ўласнае сям'і кожнаму бабру-маладзёну давядзецца. Ды не цяпер жа гэта рабіць Плясіку, у якога яшчэ, як кажуць, малако на вуснах ды вусах ледзь-ледзь абсохла.

Але надта ж ужо маладому бобрыку хацелася свет паглядзець. Бо ён жа, свет наўкола, такі квяцісты ды прывабны! Адны віры з запрудамі на рацэ вунь колькі незвычайнага ў сабе тояць.

А яшчэ ж дываны разнатраўя і красак па берагах! А яшчэ ж аблокі, што адбіваюцца ў вадзе і плывуць, плывуць па ёй безупыннымі чародамі! Вочы можна згубіць ад такога хараства.

Праўда, што ні крок ля ракі — то нешта прыўкраснае, новае, дагэтуль не бачанае.

Вось тут мятлік ля самай тваёй пысы крылцамі ўтрапёна махае, быццам нешта сказаць хоча.

А вунь там птушачка-невялічка з гнязда вылецела, ціўкае над вухам, птушыныя свае гісторыі заўзята распавядае.

А там, глядзіш, нейкая калматая істота апусціла галаў да вады і наталяе смагу ды бляе раз-пораз.

Вось такія дзівосы ўсюды!

А тут сядзіш цэлы дзень у хатцы і нічога з тых дзівосаў не бачыш. Дазволяць бацька і маці на якую гадзіну з братамі і сястрой паплаваць у заточцы, не паспееш поўсць як след змачыць, як ужо клічуць дадому хутчэй вяртацца. Быццам дома невядома якая пільная, неадкладная справа яго чакае.

Ды, канечне ж, ніякая то не справа вінаватая, а проста перасцерагаюцца бацькі. Маўляў, ці мала што можа з дзіцем падчас забавы без нагляду старэйшых здарыцца... Вось і пільнуюць штохвіліны любага нашчадка.

Абрыдла Плясіку гэткая дробязная апека. Канечне, у хатцы бацькоўскай цёпла і бяспечна, але ж што гэта за шчасце — сядзець днямі ў чатырох сценах, як той казаў — мохам зарастаць? Ні табе волі, ні табе ўражанняў новых, а штодня толькі адно і тое, адно і тое.

Вось і вырашыў Плясік уцячы з дому ды на свой розум жыццё ладаваць.

Збег уначы, употай, калі ўсе спалі, з хаткі і паплыў куды вочы глядзяць. Узбіўся неўзабаве на вось гэты прыгожанькі вірок наўзбоч пясчанае выспы ды і застаўся пры ім.

Так быццам бы і збылася яго мара пра самастойнае, асобна ад бацькоўскай сям'і, жыццё.

***

“Але як, з чаго гэтае новае, самастойнае жыццё пачынаць?” — задумаўся бобрык не на жарт. Думаў, думаў і вось што ў рэшце рэшт надумаўся.

Ну, канечне ж, з будоўлі трэба пачаць! Балазе бабёр, як гэта ўсім вядома, — будаўнік спраўны. Ад нараджэння адмысловы дойлід*, кемлівасці і ўмельству якога ў хаткабудаўніцтве нават і чалавек можа пазайздросціць.

Вось нагледзеў Плясік танклявую альшыну на беразе, вырашыў яе паваліць. Упіўся зубамі ў кару, як бацька вучыў, калі ладзілі ля хаткі ўвесну запруду, пачаў грызці. Пагрызе-пагрызе, адпачне крыху і зноў — грызці.

Ох, цяжкая гэта ўсё-такі справа — валіць дрэвы. І цяжкая, і небяспечная. Бо і зубы можна пакрышыць аб каляную драўніну, і пад камель, калі дрэва ўжо падае на дол, няўрокам** трапіць. Але ж не абысціся без яе, калі хочаш пабудавацца.

Урэшце паваліў Плясік сяк-так альшыну, легла яна камлём у ваду ўпоперак ракі.

І так хораша зрабілася адразу бобрыку, так весела, што ажно сам сабе заўсміхаўся.

---

* Архітэктар, майстар.

** Неспадзявана.

Хацеў яшчэ адну альшыну падгрызці, але перадумаў, пакінуў на наступны дзень. Ды і заснуў неўпрыцям*, стомлены, у высокім аеры пры свежым пяньку.

І так моцна Плясік заснуў, што ні галасоў іншых звяроў, ні ўсплёску вады, калі нехта ступіў у раку з другога берага, не чуў. Можа, дзве гадзіны гэтак спаў, натомлены працаю, можа, нават больш. Аж пакуль кволы вятрыска зусім не аслабеў і сонца не пачало ў бок прыпякаць.

***

Расплюшчыў Плясік вочы і веры сабе не даў. Альшына, якую ён нядаўна паваліў, не ў вадзе, а на выспачцы за колькі метраў ад віру ляжыць! Быццам чыясьці нябачная рука яе туды перацягнула ды і кінула смажыцца на сонцы.

Што за дзіва такое, што за неспадзянка?

І галоўнае — каб хоць знак прысутнасці старонняй істоты дзе-небудзь застаўся.

Круць Плясік сюды-туды — нідзе нікога не бачна. І толькі на краі выспачкі, побач з тым месцам, дзе камель альшыны пачынаецца, пара слядоў ямкамі на пяску ледзь-ледзь вымалёўваецца. А наўзбоч камля маленькае жабяня сядзіць пад жмутам воглае ціны.

* Незаўважна, непрыкметна.

Кінуўся Плясік да жабяняці.

— Дык вось хто мне працу папсаваў! — гукнуў сярдзіта. — Ты гэта зрабіла, дурное жабяня? А ну, прызнавайся! Ты?

— От яшчэ што прыдумай! — абурылася жабяня. — Аж прыкра слухаць такое. Сяджу ж во, бачыш, ціхенька, нікога не чапаю.

— Ага, сяджу! А сляды чые паўсюль? — не паверыў Плясік. — Вось след, і вось яшчэ. І вунь...

— Ды хіба ж гэта мае сляды? Паглядзі, якія мае ступачкі маленькія, — пачало апраўдвацца жабяня. — А тут — след дык след! Мне нават і не сніўся такі велічэзны.

— Сапраўды, усім слядам след! — пагадзіўся Плясік.

— Ды і ножак чатыры ў мяне, а не дзве, як тут усюды на пяску.



— Ну, зноў твая праўда, — яшчэ раз уважліва паглядзеўшы спачатку на сляды, а затым на ножкі збянтэжанага жабяняці, сказаў Плясік.

— Вось бачыш, не хлушу я.

— Цяпер бачу. А што ты тут робіш, жабка?

Жабка ўсхліпнула, выцерла лапкаю мурзатую сваю, запарушаную дробнымі пясчынкамі і камячкамі бруду пыску.

— Ды вось, ад бацькоў з сажалкі збегла. Гэтак надакучылі яны мне са сваімі павучаннямі... Таго не рабі, туды не плыві, з тым не сябруй — хто такое вытрымае? Вось я і не ўтрывала, падалася ў прочкі*.

"Ого, акурат як пра мяне і пра маіх родзічаў распавядае", — падумаў Плясік і навастрыў вушы.

— Два дні па кустоўі і халуях** каля ракі бадзялася, пакуль не заблудзілася, — працягвала тым часам жабяня. — Хацела дахаты павадаказіць, каб паклікаць каго-небудзь са сваякоў на дапамогу, ды, як на тое, вадакажык*** дзесьці ў прыбярэжнай твані**** згубіла. Можа, ты мне свой на хвілінку пазычыш?

---

* Пакінула, пайшла прэч.

** Месца на беразе ракі, якое ў паводку заліваецца вадою.

*** Вадзяны тэлефон.

**** Багне, гразі.

— Я б з радасцю пазычыў, але ж не маю, — сказаў Плясік. — Бацькі абяцалі на дзень народзінаў падарыць, а не паспелі... То цяпер ужо, як ад іх адышоў, і не ведаю, як яно будзе з абяцаным падарункам...

— Дык ты таксама ці не збег з дому?

— Ну, збег, — бадзёра, з выклікам у голасе — маўляў, ведай нашых! — адказаў Плясік і знарок як мага весялей засмяяўся.

— Кепска, ой, як кепска, — прамовіла з сумам у голасе жабяня і прадоўжыла аповед пра свае невясёлыя прыгоды:

— А тут я яшчэ, ведаеш, надоечы* буслу на вочы трапіла. Ён жа якраз, цыбаты ненажэра, на паляванне выйшаў. Па беразе ходзіць, ды цікуе, ды дзюбу сваю доўгую ў кожную шчыліну торкае. Каго знянацку заспее, таго і глытае. Каб не гэтая ціна, дык, пэўна, і мяне з усімі вантробамі праглынуў бы. Добра, схавацца паспела.

— Пашанцавала табе, сапраўды, — пагадзіўся Плясік.

Хацеў дадаць, што, маўляў, вось як яно бывае, калі дзеці бацькоў не слухаюць. Але тут жа пра ўласнае непаслушэнства ўспомніў і прыкусіў язык.

— Яшчэ як пашанцавала! — усхліпнула жабяня. — Адно кепска: надта ж самотна мне. І есці хочацца... А тут каб кузюрка дзе... Ой, глядзі, ці не ён гэта, бусел, зноў ляціць!

* Нядаўна, днямі.

Сказала гэтак і здранцвела ад страху. Так спалохалася жабяня птушкі, што і схавацца як след не дало рады. Тулава пад жмут ціны сяк-так збольшага ўціснула, а ногі вонкі, бы тыя ментузовы вусы з-пад каменя, тырчаць.

Вялікая белая птушка самавіта праляцела над вірам, знікла па-за хмызам.

— То не бусел, то чапля, — удакладніў Плясік.

— Абое яны рабое, што той, што гэтая, — падало голас з-пад ціны жабяня. — Праглынуць і вокам не міргнуць. Ужо на што вуж шкадлівы, а і той менш за іх небяспечны. Бо глытае памалу, не зар*а*з, дык і адбіцца ад яго можна. Не тое, што гэтыя двое: дзёўб, глык — і няма цябе.

Жабяня вылезла з-пад ціны, перасцярожліва зыркнула вачыма па баках, скокнула ў вір. Пагайдалася-пагайдалася колькі хвілін пластам на паверхні вады і знікла ў спляценнях багавіння*.

А Плясік адышоўся воддаль ад выспачкі, зноў пра дзівосы з камлём задумаўся.

Думаў, думаў бобрык, хто б гэта мог на плён ягонае працы пакваліцца, і нічога не надумаўся.

Тады вырашыў ён падпільнаваць зламысніка.

---

* Водарасцяў.

Зацягнуў альшыну зноў у вір, стаіўся ў аеры ды сядзіць, чакае.

Але дарэмна чакаў, бо так ніхто да вечара паблізу і не паказаўся. Толькі рак-пустэльнік* высунуўся на хвіліну з вады, убачыў Плясіка і зноў сігануў, палахлівец, задам наперад у свой схрон пад абымшэлым каменем.

Калі зусім сцямнела, маці колькі разоў гукнула яго здалёку, каб вяртаўся дахаты. Хацеў Плясік адазвацца, ды не асмеліўся: і няёмка было, і сорамна чамусьці.

Затое з бліжняга лецішча** адазваўся на яе голас сабака. Брахнуў раз-другі, енкнуў, быццам нехта на хвост яму наступіў, і ўсё сціхла.

***

Уранку, ледзь сонца ўзышло, зноў узяўся Плясік за працу. Хацеў перад тым дзеля весялосці з жабянём пагаманіць; гукнуў раз, другі, але не дагукаўся. "Мабыць, да бацькоў небарака вярнулася", — падумаў. Уявіў, як сядзіць жабяня, шчаслівае, у сажалцы побач з бацькамі, і аж зайздросна яму стала. Але даў зайздрасці рады, прагнаў прэч.

---

* Адзінотнік.

** Дачы.

Дрэўца, якое ён зараз нагледзеў, расло воддаль ад берага, на стромым абрыве, і было значна таўсцейшае за ўчарашняе. Таму і паваліць яго аказалася куды цяжэй.

Стаміўся Плясік, пакуль паваліў тое дрэва, — не жартачкі! Так назавіхаўся, бядак, што нават есці не захацеў. Глымзнуў похапкам пасак кары з паваленага дрэва ды і палез у хмыз над абрывам.

І ледзь паспеў прылегчы, як тут жа і заснуў.

***

Прачнуўся ён ад усплёску вады. Падхапіўся спрасоння і знямеў ад нечаканасці і сполаху. Наўпрост да яго брыў па вадзе краем віру хлопчык год сямі ў кароткіх шорціках і майцы.

“Дык вось хто маю альшыну ўчора з віру на выспачку перацягнуў”, — падумаў Плясік і зашыўся глыбей у ямку паміж карэннем хмызу.

А хлапчук усё бліжэй і бліжэй да абрыву падыходзіць. Вось ужо і канапаткі на ягоным твары, і шнары на каленях ад прыбярэжнай асакі зусім выразна бачныя.

Што рабіць Плясіку? Трэба ў ваду спускацца, а няма як. Абрыў такі стромы ды круты, што толькі ў вір скочыць з яго можна. А як скочыш, калі хлапчук гэтак блізка ўжо, што міжволі на галаў яму, скокнуўшы, упадзеш?

І што наўме ў таго хлапчука? Вунь летась гэткія ж, як ён, хлапчукі з лецішчаў стрыечнага Плясікавага брата Плясь-Пляся ў браднік падчас лоўлі рыбы ледзь не загналі, цудам выбраўся з аблогі*.

Ох, і трапіў жа ён у пастку! А ўсё з-за ўпартасці. Не паслухаў маці — і во якія непярэліўкі** атрымаліся.

А хлапчук усё бліжэй і бліжэй падыходзіць. Адно добра: не бачыць ён пакуль што Плясіка за хмызам. А калі раптам надумаецца ўзлезці на абрыў? Што тады рабіць? Куды ўцякаць? Дзе хавацца? Дзе шукаць паратунку?

Роспач ахапіў Плясіка.

Ды, на шчасце ягонае, штосьці зазвінела ў хлопчыка ў кішэньчыку. Дастаў хлапчук з кішэні тое штосьці кшталту вадакажыка, прыклаў да вуха, і твар яго адразу ж спахмурнеў. Быццам яго за нешта строга дакаралі-вычытвалі, а ён, не маючы чым апраўдацца, моўчкі слухаў ды чырванеў раз-пораз.

— Добра, мама, даруй, — толькі сказаў напрыканцы і паклаў рэч у кішэню.

Узрадаваўся Плясік, што вось і пойдзе хлапчук дадому, але дарэмна. Спыніўся той на хвіліну, азірнуўся незадаволена, махнуў

---

* З акружэння.

** Нявыкрутка.

рукою — адчапіся, маўляў, — і зноў пабрыў наперад, да абрыву.

Зусім страшна стала Плясіку. Так страшна, што ногі задрыжэлі ды поўсць на спіне, адчуў, шчаціннем узнялася.

Заплюшчыў ён вочы, выгнуўся спружынаю ды як скокне з абрыву ў вір! Амаль усутыч з хлапчуком і ўпаў у ваду. Так блізка, што нават скуру ягоную пысай адчуў. Ды хутчэй у сярэдзіну віру, туды, дзе глыбей

і бяспечней, паплыў. Падплыў пад нейкую патарчаку, стаіўся, сядзіць.

Але ж колькі будзеш у вадзе сядзець? Бабёр жа не рыбіна, яму паветра патрэбнае, каб дыхаць.

Адштурхнуўся Плясік хвастом ад патарчакі, паплыў угору. Вынырнуў з вады, бачыць: сядзіць хлапчук на выспачцы, дрыжыць ад страху і румзае. А побач з ім жанчына стаіць ды выгаворвае яму.

— Неслух ты, Цімоша, — кажа. — Чаму не пайшоў дахаты, як клікала? Хіба можна гэтак лёс спакушаць, аднаму па надрэччы гойсаць? Вось добра, як сполахам толькі абышлося. А мог жа і патануць. І хто б тады цябе ратаваў?

Глянула на ваду, убачыла Плясіка, засмяялася:

— Дык вось хто цябе напалохаў! Гэта ж бобрык. Ён, мабыць, сам не менш за цябе спужаўся. Відаць, таксама ад маці збег, а цяпер і не рады ўжо, што так зрабіў.





— Гэта ён, пэўна, рыбаю хацеў паласавацца, вось і збег туды, дзе яе болей, — сказаў Цімоша. — А каб лягчэй было лавіць, вырашыў запруду зрабіць.

— Ну хіба ж бабры рыбу ядуць? — засмяялася маці. — Яны ж карою, ды маладым голлем, ды рознымі раслінамі харчуюцца. Вось бачыш, колькі табе яшчэ трэба ўсяго даведацца, перш чым лічыць сябе самастойным. І бобрыку таксама. Вось і навука вам абодвум будзе, як бацькоў трэба слухаць ды не засмучаць іх кепскімі паводзінамі.

Пачуўшы такія словы, глынуў Плясік паветра і зноў — плясь у ваду. Але не да берага гэтым разам паплыў, а ў накірунку бацькоўскае хаткі. Гэтак яму маці з бацькам ды братоў і сястру захацелася пабачыць, што нават пра альшыны свае паваленыя на выспачцы забыўся.

Плывё ён, а з галавы навеяная словамі хлопчыкавай маці думка пра бацькоў не выходзіць. Уявіў сабе, як яны бядуюць-

сумуюць па ім, і так яму, аж да слёз, сорамна ды прыкра зрабілася. Даглядалі яго бацькі, песцілі, кармілі, а ён вось як ім за іхні клопат аддзячыў... І як цяпер апраўдвацца перад імі?

Праплыў Плясік яшчэ колькі метраў пад вадой, зноў вынырнуў. Азірнуўся, бачыць: жанчына з хлапчуком ужо берагам дахаты ідуць. Тут і хлапчук азірнуўся.

Сустрэліся яны з Плясікам паглядамі і падаліся кожны сваім шляхам.

***

Прыплыў Плясік дадому, сустрэлі яго бацькі і сястра з братамі. Паўшчувалі*, канечне, што гэтак доўга бадзяўся немаведама дзе. Але неўзабаве, убачыўшы, як шчыра перажывае ён сваё непаслушэнства, даравалі правіну.

І зноў зажыў Плясік у бацькоўскай хатцы весела і шчасліва. Удзень бацьку і маці запруду рамантаваць дапамагае. Увечары з сястрою і братамі сярод вадзяных лілеяў і багавіння плавае, у гульні розныя гуляе.

І болей ужо ніколі без ведама старэйшых з хаткі не адлучаецца. А калі і адлучаецца, заўсёды бацькоў пра тое, дзе цяпер знаходзіцца, праз падораны-такі да дня народзінаў вадакажык папярэджвае.

* Падакаралі.

Нядаўна, кулогаючыся ў затоцы, Плясік жабяня, з якім падчас прочак ля віру пазнаёміўся, сустрэў. Крыху падрасла жабоцька, але, казала, ад бацькоў таксама надоўга не адлучаецца. Нумарамі абмяняліся, цяпер вадаказяць адно аднаму.

А прыкры той выпадак у віры і па сёння Плясік памятае. І надта шкадуе, што гэтак яны тады з хлапчуком тым, Цімошам, недарэчна разышліся. Маглі ж і пасябраваць, напэўна. То, можа, калі-небудзь яшчэ спаткаюцца, пасябруюць.

Вось прыедзе Цімоша зноў са сваімі бацькамі на лецішча, тады і спаткаюцца. Магчыма, і пагамоняць, і пакупаюцца разам у рацэ, і нават пападарожнічаюць уздоўж берага.

Але для гэтага падрасці абодвум трэба, набрацца спрыту ды моцы. А то ці мала што зноў можа здарыцца?

Вада ж — гэта не толькі радасць і месца для гуляў, але і небяспека. Яна, хоць і шмат карыснага дае жывёле і чалавеку, свавольства нікому не даруе.



Першакласнік Ромак вось ужо амаль тыдзень не ходзіць у школу. А ўсё праз хваробу. Выбег надвячоркам з кватэры без паліто і шаліка пакарміць дзікіх качак ля ручая ды і застудзіў на ветры горла.

І так моцна застудзіў, што нават глытаць зрабілася хлопчыку балюча. Толькі паспрабуе ён што-небудзь з'есці, як тут жа горла і нагадае пра сябе казытлівым, рэзкім болем. Давялося доктара выклікаць.

Паслухала-паглядзела доктар Ромака, выпісала рэцэпт на лекі і загадала да часу не тое што ў школу не хадзіць, а нават і на двор носа не высоўваць.

***

Будынак школы знаходзіцца блізка ад дома, дзе Ромак жыве з бацькамі і старэйшым братам, дзевяцікласнікам Ігарам.

Улетку ён хаваецца ад староньніх вачэй у засені дрэваў. Узімку ж, калі дрэвы стаяць зусім голыя, наадварот, увесь бачны як на далоні.

У ясны дзень весела зіхаціць на сонцы шыбамі вокнаў. У хмурнае надвор'е лашчыць вока алейкай аб'інелых клёнаў ды ліпак пры ўваходзе.

А падчас перапынкаў паміж урокамі вабіць пераліўамі жвавых дзіцячых галасоў.

Мікрараён тут новы, і месціцца ён на ўскраіне зараслае хмызам пусткі, наўзбоч якой цячэ хуткаплынны, імклівы ручай.

Ручай гэты ніколі, нават у самыя-самыя моцныя маразы, не замярзае. Таму, відаць, і ўпадабала яго берагі для зімовага прыстанку чародка зграбных качак-крыжанак*.

Птушкі ўжо трэці сезон не адлятаюць у вырай, а застаюцца зімаваць на заснежанай пожні пры ручаі.

То збіваюцца ў гаманлівы гурт і сядзяць уроскід жыватамі на снезе.

То, схаваўшы свае аранжавыя лапкі ў пер'е, выгінаюць, штукары, шыю, адкідваюць назад галаву ды ўнурваюцца дзюбамі-лапаткамі ў цёплае міжкрылле.

То плаваюць у сцюдзёным ручаі або даюць нырца ў пошуку якой-небудзь спажывы.

А то раптам, нечым спужаныя, дружна ўспырхнуць у паветра ды адляцяць воддаль, каб праз колькі хвілін зноў вярнуцца на ранейшае месца.

***

Птушкі — прыгажуны, вачэй не адвесці. Асабліва качары. У якія толькі колеры не расквеціла шчодрая на прыдумкі прырода іх пер'е!

* Падвід дзікай качкі, руск. — кряква.

Тут табе і смарагдава-перламутравы, і рудаваты, і буры, і попельна-шэры.

А як прыгожа аздабляе постаць птушак белы абадок понізу — слоў не знайсці, каб апісаць!

А Ромаку дык, папраўдзе, больш за ўсё падабаецца ў абліччы крыжанак сіне-фіялетавае "люстэрка" на іх крылах. Кажуць, яно дапамагае птушкам пазнаваць адна адну.

Ці праўда гэта — невядома, а вось што прывабнасці качкам гэткае дзівоснае ўпрыгожанне дадае — не паспрачаешся. Здаецца, каб і вельмі захацеў прыдумаць што-небудзь больш прыгожае, наўрад бы даў рады.

Вось такое хараство радуе з дня ў дзень позіркі жыхароў мікрараёна. Нездарма і дарослыя, і малыя, ледзь вольная хвіліна з'яўляецца, спяшаюцца да ручая.

А некаторыя выпадковыя мінакі, аднойчы такі цуд пабачыўшы, каб яшчэ раз на яго паглядзець ды дзецям і ўнукам сваім паказаць, нават з іншых мікрараёнаў сюды, на ўскраек горада, прыязджаюць.

А качкі і радыя. Ходзяць самавітымі павамі па схіле ручая, перагукваюцца між сабою ды строямі сваімі дзівоснымі адзін перад адным ды перад людзьмі выхваляюцца.

Найбольш смелыя і зусім блізка могуць падчас кармлення падысці да чалавека. І нават за калашыну штаноў лёгенька



ўшчыкнуць. Так ім карціць увагу на ўласную птушыную асобу звярнуць. Маўляў, глядзі, чалавеча, я тут, побач, дык не абыходзь мяне сваёю шчодрасцю.

Харчуюцца ж качкі тым, што людзі дадуць. Праўда, арнітолагі* не раяць іх надта прыкормліваць. Асабліва хлебам, ад якога можа стацца здароўю пярнатых вялікая шкода.

* Навукоўцы, якія вывучаюць птушак.

Бо хлеб разбухне ў птушкі ў страўніку, і яна захварэе. Ды так, што можа нават і памерці. Зрэшты, пра ўсё гэта ў сецiве лёгка знайсці, толькі не лянуйся шукаць.

Канечне, клапаціцца пра самаадчуванне і здароўе качак неабходна. Але ж і зусім без ежы пакідаць іх у такую суровую пару года таксама нельга.

Вось і нясуць ім людзі то якога-небудзь зерня, то рыбы, то варанай бульбы.

І вось якраз тут, ля ручая, падчас кармлення качак Ромак нядаўна і прастудзіўся.

Так заўзята сыпаў ім хлапчук жменяю гарох, так стараўся ніводнай крылатай прыгажуні не абмінуць пачастункам, што і не заўважыў, як падставіў шыю сцюдзёнаму ветру.

***

Ды не ўсё ж чалавеку хварэць. Некалі, нарэшце, адступіць хвароба: панізіцца тэмпература, суцішыцца кашаль, і горла перастане балець. Гэтак і з Ромакам адбылося.

Праз некалькі дзён ад пачатку хваробы зноў паглядзела-паслухала яго доктар уважліва ды і дазволіла з наступнага панядзелка ісці ў школу.

Узрадаваўся Ромак, што не трэба будзе больш сядзець у самоце дома ды глытаць розныя абрыдлыя лекі, і пачаў збірацца ў школу.

***

І вось надышоў панядзелак. Паснедалі браты, пайшлі ў калідор апранацца.

Ромак першы апрануўся і ўжо памкнуўся ісці з кватэры, як тут Ігар яго спыняе.

— Давай, дружа, заплечнік твой паднясу. Бо ты ж, мабыць, слабы яшчэ пасля хваробы, — кажа і хуценька закідвае Ромакаву ношку з кніжкамі і сшыткамі сабе за спіну.

Радуецца Ромак нечаканай братавай помачы, ідзе да дзвярэй.

Выходзяць яны з Ігарам на двор. А там — дзіва дзіўнае: зусім, зусім ужо не такое надвор'е, як тыдзень таму было.

Бо пакуль Ромак хварэў, адліга пачалася. Мароз аслабеў, і снегу ўсюды ўваднача́с быццам паменела. Раз-пораз шэрыя хмары-валацугі на неба насунуцца, пакружляюць-пакружляюць над дамамі ды і абрынуцца на зямлю перарывістымі нітачкамі мокрых крупак. Крупкі тыя ўмомант таюць, і ад іх такая куламеса пад нагамі ўтвараецца, што адно і глядзі, каб не патануць у ёй.

Качкі на пожні мітусяцца, крыллем часценька махаюць. Быццам адлятаць некуды збіраюцца. Кінеш ім чаго-небудзь — ледзь-ледзь зірнуць у твой бок. А то і зусім не зірнуць. Такія раптам абыякавыя да ўсяго парабіліся заўсёды гаманкія, таварыскія птушкі.

К поўдню, пакуль заняткі ў школе ідуць, яшчэ больш на дварэ цяплее.

А ўначы такая спорная, шчыльная абліваха* на дварэ пачынаецца, што к раніцы наступнага дня амаль зусім снегу ў наваколлі не застаецца. Толькі дзе-нідзе па нізінках наўзбоч ходніка** ён свіціцца, і то напалову з вадою і паўрасталымі празрыстымі льдзінкамі.

***

Мінае ноч, раніца настае.

Апранаецца Ромак, чакае, пакуль Ігар зноў, як учора, сабе на спіну яго заплечнік ускуліць. Мог бы і сам, пэўна, ужо яго несці, ды нешта неахвота. Бо яшчэ ж ад хваробы як след, мабыць, не адышоў.

---

* Зімовы дождж.

** Тратуара.

Ды і на дварэ вунь як мокра, слотна. Яшчэ не хапала яму на слізкім ходніку пакаўзнуцца ды паваліцца!

Але і лянота, папраўдзе, — не апошняя прычына гэткіх Ромакавых паводзінаў.

І не дзіўна: да лёгкага, вядома, хутка чалавек прывыкае. Адзін раз сябе пашкадаваў, другі, трэці, чацвёрты — і вось ужо і не заўважыў, як звычка і пастаянна ўласную асобу шкадаваць апанавала.

Вось ідуць яны з Ігарам да школы. Ромак наперадзе ўлегцы* бадзёра крочыць, Ігар — ззаду са сваёю тэчкаю ў руцэ і Ромакавым заплечнікам за спінаю.

Добра Ромаку: і няцяжка, і спакойна ад братавай надзейнай прысутнасці. Мацае ён даланёю ў кішэні пакунак з гарохам — для качак пачастунак — ды весела ўсміхаецца сам сабе і ўсяму беламу свету.

І так яму радасна на сэрцы, так хараша ў яго на душы, што спяваць хочацца.

Даходзяць яны да ручая, глядзь, а там...

Ой, што за дзіва?! Каб хоць адна качка насустрач братам азвалася! Гэтак пуста ды ціха на беразе пры ручаі, быццам і не было тут ніколі ніякіх качак.

---

* Без ношы.



Толькі чародка порсткіх галубоў мітусіцца па пожні, падбірае рэшту дробнага харчу, што пасля адлёту качак на спажыву ім застаўся. Ды сям-там у гурбачцы паўрасталага снегу прыгожае качынае пяро сіратліва пракінецца.

Увесь дзень у школе Ромак думае пра зніклых качак. Так зацята, так неадступна думае, што настаўніца не-не ды і зробіць яму заўвагу. Ды хіба ж дасі рады перастаць думаць, калі такое побач з табою дзеецца!

Куды яны дзеліся, гэтыя качкі? Хіба ім блага было на пожні? Кармілі іх тут людзі шчодра, не крыўдзілі, здаецца. А яны во ўзялі ды і зляцелі немаведама чаго і куды.

От жа дзіўныя, незразумелыя стварэнні гэтыя азёрна-балотна-рачныя няўрымслівыя птушкі...

Думае так Ромак, думае і ўсё марыць пра тое, як пойдзе са школы дадому і ўбачыць ля ручая качак, што, можа, якраз вернуцца к гэтаму часу на абжытае месца.

Але дарэмна Ромак марыць. Бо ні ў гэты дзень, ні назаўтра качкі да ручая не вяртаюцца.

І толькі праз два дні, калі адступае адліга і маразы зноў размалёўваюць вокны дамоў мудрагелістымі зімовымі карункамі, — прылятаюць на пожню і запаўняюць наваколле сваім гучным, бадзёрым кракманнем.

***

Мінае яшчэ некалькі дзён. Ромак ужо зусім добра адчувае сябе пасля хваробы. Але па-ранейшаму ходзіць у школу з Ігарам. Так ён прывык да братавай апекі, так разленаваўся сам насіць свой заплечнік з кніжкамі-сшыткамі.

Аднакласнікі смяюцца з яго, кпяць, а яму хоць бы што. Так прычапілася да Ромака звычка спадзявацца на дапамогу старэйшага брата, што, здаецца, ніколі-ніколі ўжо яму ад яе не пазбавіцца.

***

А праз два тыдні вясна пачынаецца. Сонца відавочна вышэе, робіцца ўсё больш лагодным, цеплынёй ды звонам капяжоў поўніць наваколле.

Куды вокам ні кінь — усюды вада, вада, вада... Ручай ля школы разліваецца, робіцца буркатлівым, як горная рака ў час паводкі.

Тут бы, здаецца, качкам і паплаваць у ім, пасваволіць між шумлівых берагоў. Ды не: узмываюць раптам дружна птушкі ўгору і ляцяць на свае рэкі, азёры і балоты.

І ні харчу ім, што дарослыя і дзеці па-ранейшаму прыносяць да ручая, не трэба, ні іхняе ўвагі. Маўляў, дзякуй вам, людзі, за вашу дабрыню, але не ўсё ж з яе карыстацца, трэба і самім нам пачынаць пра свае справы дбаць.

А тым часам Ромак крочыць побач з Ігарам да школы і думае: чаму так? Чаму птушкі не жадаюць пры людзях надалей заставацца?

Хіба самім здабываць харч — лягчэй, чым з рук людзей яго браць? Гэта ж так хораша, здаецца: паеў, паплаваў, зноў паеў, і ніякіх табе клопатаў.

Аднак жа чамусьці не хочацца качкам такога лёгкага шчасця, пазбягаюць яго. Чаму так?

Думае, думае гэтак хлопчык і толькі ўжо позна ўвечары, у ложку, нарэшце, здаецца, знаходзіць адказ...

А назаўтра толькі спрабуе Ігар уранні яго заплечнік за спіну сабе закінуць, як скок ён да брата і...

***

А што далей было, што Ромак сказаў у той ранак Ігару і што зрабіў, паводзінамі качак уражаны, кожны сам, напэўна, здагадаецца.

Мы ж адно дадамо: Ромак цяпер не толькі свой заплечнік з кніжкамі і сшыткамі заўсёды сам носіць, але і аднакласнікам, як хто-небудзь з іх не вельмі добра сябе адчувае, ахвотна дапамагае.

Ну, і наступнае зімы, канечне, каб за прыгажунамі качкамі-крыжанкамі паназіраць ды, можа, яшчэ чаму-небудзь патрэбнаму ў іх навучыцца, чакае.

Прырода ўсяму, што трэба для жыцця, чалавека навучыць. Абы толькі чуць і бачыць яе быў ён здольны.

А каб стаць такім, ох як шмат трэба кожную хвіліну над сабою працаваць.



